№ 93 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы — 2 м. 70 ф., на 1 мес. — 90 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цана абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі — 25 фэніг.; дробныя абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 93 (289). Год III. Вільня, 26 лістапада 1918 г. Цана 10 фэн. (5 кап.)

## „За Расею 1914 г.“

ВЛАДІВАСТОК. 20.XI. (Рэўтэр). Ген. Колчак назначаны дыктатрам Расеі. Ген. Харват і Іваноў прызналі новую дыктатуру.

ГЭЛЬСІНГФОРС. 24 XI. На надзвычайным пасяджэньні Маскоўскага савета пастаноўлена абвесьціць Маскоўскую губэрню на надзвычайным палажэньні дзеля контрэволюцыйнага руху.

У Новачэркаску склікаецца конгрэс монархістаў.

З Кіева наказаваюць, што чарнаморскі флот падняў рускі імпэратарскі флаг.

З Варонежа наказаваюць што туды прыбыў полк з б. расейскіх афіцэраў, кавалераў св. Юрыя.

У Роставе на Дону ўтварылася міністэрства усерасейскага руху, складзенае з ген. Лукомскага, ген. Макарэнка, мін. Созонова, яго памочніка Наратава і Сьцяпанова.

З Кацярынадара наказаваюць, што там 14-а адчынілася паўночная рада, на каторай было заяўлена, што саюзьнікі ставяць гэткія варункі: 1) прадстаўніцтва адзінай і недзялімай Расеі на мірным конгрэсе, 2) спын вывазу емінных рэчаў з Расеі, 3) зварот Расеі ўсіх тэрыторый з граніцай 1914 г., 4) занятку важнейшых стратэгічных пунктаў саюзьнікамі.

Саюзьнікі ўтварылі ў Чорным моры тры флоцкіх пункты: Адэса, Наварасійск і Варна, адкуль пачнецца паход проціў большэвікоў. У Варне спадзяюцца вялікай арміі з Македонскага фронту.

16-га расейская делегацыя аб міры выехала з Кіева ў Маскву.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Льлёйд-Джордж сказаў у публічнай прамове, што маскоўскія большэвікі прабуюць пашырыць анархію на ўсю Еўропу. Англіцкі ўрад будзе далей весьці сваю работу, не паддаючыся ўплыву гэтага кірунку.

КІЕЎ. (В.Т.Б.). 23.XI. Францускі консул Энно паведаміў дэкларацыю саюзьнікаў, у каторай між іншым, кажацца: «мы будзем паддзержаваць ўрад гэтмана, прыходзім на Украіну як прыяцелі народу“.

КІЕЎ. 23.XI. Украінскія ўрадовыя войскі ў ваколіцах Кіева разьбілі нацыянальныя войскі і ўсюды іх адціснулі назад.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 25.XI Спаўняючы Камітэт Работніцкай і Салдацкай Рады ў Бэрліне кажа ў адозьве, што яго мэтай ёсьць арганізацыя ўраду новаўтворанага саюза нямецкіх рэспублік. Нельга дапусьціць разрыву між поўночнай і поўднёвай Нямеччынай. З гэтай мэтай склікаецца на 16 сьнежня вялікае сабраньне дэлегатаў Салдацкіх і Работніцкіх Рад.

ЛЮБЛЯНЫ (В.Т.Б.). 23. XI. Італьянскі губэрнатар загадаў зараз-жа распусьціць паўднёва-славянскую нацыянальную раду ў Трыэсьце.

БЭРЛІН. 25.XI. На протэст нямецкай камісіі аб замірэньні проціў нялюдзкага выпаўненьня яго саюзьнікамі францускі прэзэс адказаў: „адказа на протэст ня будзе дадзена“.

ЛЮБЛЯНЫ. 24.XI. Газэты наказаваюць, што прыбыўшы ў гавань Фіумэ (Рэка) амерыканскі флоцкі камэндант заявіў, што гавань Фіумэ павінна належыць да паўднёвых славян, а не да італьянцаў.

ВЕНА (В.Т.Б.). 25.XI. Учора італьянцы занялі сталіцу Тыроля, Інсбрук.

АМСТЭРДАМ (Гавас) 24.XI. Прэзыдэнт Вільсон прыяжджае ў Францыю 12 сьнежня.

БЭРЛІН. 23.XI. Забастоўка горных работнікаў захапіла ўсю верхнюю Сілезію.

ДРЭЗДЭН. (В.Т.Б.). 24.XI. Англіцкія газэты кажуць, што саюзьнікі пільна прыглядаюцца да здарэньняў навакол імпэратара Вільгэльма і маюць даводы проці яго. Клемансо прыняў рашучыя меры, каторых рэзультаты будуць вядомы ў бліжэйшыя дні.

ЛОНДОН. (В.Т.Б.). 24.XI. Газэты наказаваюць, што англіцкі ваенны флот даведаецца да нямецкіх ваенных гаваняў: Вільгэльмсгафэн і Кіль, каб праканацца у тым, што немцы выпаўнілі ўзятыя на сябе абавязкі замірэньня.

ЖЭНЕВА. 24.XI. У англіцкіх палітычных кругах вядзецца прапаганда заняць войскамі Бэрлін, каб Нямеччына зрабілася базаю для экспэдыцыі саюзьнікаў на Расею. Француская социялістычная печаць энэргічна пратэстуе проціў гэных праектаў.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). 24.XI. Некатарыя месты прынялі рэзолюцыю выданьня саюзьнікам нямецкага імпэратара і суду над ім.

*Вільня, 26 лістапада 1918.*

Прыйшоў час, калі кожны беларус павінен узяцца за шчырую энэргічную работу. Усякае агіляньне, усякае пушчаньне ў аддаль цяпер вялікі праступак. Народ знае, што ён цяпер павінен штось рабіць і жджэ рады і помачы ад беларускіх арганізацыі, ад беларускай інтэлігэнцыі. Частыя дэлегацыі да Беларускай Рады ў Вільні і Беларускай соцыялістычнай Грамады як найляпей сьведчаць аб гэтай вялікай патрэбе памагчы народу. Дык кожны хто толькі пачуваецца да беларускай нацыянальнасьці павінен прыняцца за работу над арганізацыяй шырокіх народных мас. За аснову для арганізацыі павінна быць прынята соцыяльнае і нацыянальнае усьвядомленьне. Будзіць ужо ня трэба, беларуская маса ўзварушана. Цяпер трэба ўмець толькі ўкладаць яе ў патрэбныя беларускія формы. Шмат дзе беларускі народ зусім сьвядомы, а там дзе ён несьвядомы, трэба на соцыяльным грунце паказаць тую карысьць, якую яму дае свая беларуская арганізацыя, свая орыентацыя і свая дзяржава і гэткім спосабам памалу даходзіцца і да нацыянальнага ўсьведамленьня, калі народ, над каторым гэтулькі было маскоўскага і польскага панскага зьдзеку пачынае лічыць сябе чалавекам роўным з другімі, шанаваць у сябе свае нацыянальныя асаблівасьці, гардзіцца, што ён беларус. Нацыянальнае усьвядамленьне, любоў да свае мовы і ўсяго свайго роднага патрэбна як дзеля нацыянальнага усьведамленьня народу, так і дзеля адраджэньня наагул чалавека, бо толькі людзі, каторыя ня будуць уважаць сябе і свае мовы чымсь горшым, ніжшым, могуць стаць вольнымі людзьмі. Трэба цяпер дзеля ўсьвядамленьня як найбалей шырыць беларускую літэратуру і асабліва беларускія агітацыйныя кніжкі і адозвы. Ніхай ня будзе ніводнага чалавека, каторы ня чытаў-бы беларускіх кніжак.

Кожная беларуская арганізацыя павінна быць зьвязана з суседнімі беларускімі арганізацыямі і ўсе беларускія арганізацыі з сваёй цэнтральнай арганізацыяй Беларускай Радай у Вільні.

Апрача звычайнай соцыяльна-нацыянальнай і палітычнай агітацыі патрэбна ужо як найбарджэй пачаць агітацыю за шырэйшую орыентацыю на Балтыцкае мора, каб зрабіць фэдэрацыю Беларусі, Літвы і Балтыкі. Гэткая агітацыя павінна быць ня толькі між інтэлігэнцыяй, але па магчымасьці між усім народам. Ужо гэтая справа скранулася з таго мёртвага пункту, на якім яна дагэтуль была. Літоўскае прадстаўніцтва цяпер таксама нічога ня мае проціў гэткай фэдэрацыі. Свядомая грамадзянства ўсіх балтыцкіх народаў (беларусы, ліцьвіны, латышы і эстонцы) павінна цяпер з усёй сілы працаваць над утварэньнем гэткага фэдэратыўнага гасударства, а тады ніхто ня будзе мець патребы баяцца агульных заходніх і ўсходніх непрыяцеляў, тады скончацца усе тыя нягодныя гутаркі аб тонкай літоўскай паласе ля мора і г. п.

## Новый спосаб крутні-мутні.

Есьць шмат способаў, каторымі нашы непрыяцелі стараюцца ашукаць беларускі народ. Кожны стараецца ашукаць па свойму. Гэтак польскія паны стараюцца даводзіць беларусам, быццам мова беларуская простая, брыдкая, што быццам кожны павінен хацець быць панам, а каб быць панам, трэба канечна ўмець па польску і г. п.

Але гэткім простым способам можна ашукаць толькі цёмнага чалавека, за тое ёсьць іншыя новыя способы крутні-мутні, на каторыя паддаюцца часам і ня зусім цёмныя людзі. Гэткі новы спосаб ужываюць польскія соцыялісты. Яны кажуць, чаго в м баяцца Польшчы, калі яна будзе дэмакратычная. Польскі пролетарыят ня будзе крыўдзіць беларускага пролетарыяту, польскі сялянін ня будзе крыўдзіць беларускага сяляніна. Мы адкажам, што дагэтуль, калі польскі інжэнер будаваў касьцёлы і інш. на Беларусі, то ён абмінаючы мясцовага работніка, наймаў з Польшчы польскага работніка, польскі пролетарыят ішоўші адбіраў кусок хлеба ад беларускага пролетарыята. Пакуль Польшча будзе ў адным гасударстве з Беларусяй гэта будзе заўсёды, хаця-бы з прычыны культуры польскага работніка. Пры сваімжа Беларускім гасударстве беларускі работнік пры помачы адкрыцьця гасударствам школ і г. п. мог-бы скора зраўняцца з работнікамі культурнейшых народаў, чаго не магло стацца, калі-б нас захапілі палякі, бо Польшчы ня было-б ніякае рацыі падымаць аднамысловымі спасабамі на вышэйшую ступень чужога народу. Беларусы адсталі ад палякоў і злучыцца з імі гэта значыла-б тое самае, што злучыцца камару з ракам. Не мы павінны спачатку дарасьці, разьвіцьця, а тады ўжо думаць аб супольным жыцьці, а ня быць хвастом у другіх, ня быць чужымі парабкамі.

Што-ж датычыць дэмакратычнасьці і соцыялістычнасьці Польшчы, дык аб гэтым мы маем права сумлевацца. Прынамсі гэткі дэмакратызм, які цяпер ёсьць, нічога добрага нам даць ня можа, а ўзяць можа ўсё. Пільсудзкі і Дашынскі соцыялісты, аднак Дашынскі забраў чыста ўкраінскае места Перэмышль. Дай Божа, каб Польшча была прынамсі гэткай дэмакрацыйнай, як Францыя, ад-

